**Васіль Ткачоў**

# Крутыя хлопцы

*Гумар*

Мінск
2001

## На крылах смеху

Вядомы пісьменнік Васіль Ткачоў нарадзіўся ў вясёлы навагодні дзень 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Ці не таму і жыве весела, сам умее добра рагатаць і чытачоў ды слухачоў сваіх прымушае. Сапраўды, хочаш не хочаш, а калі чытаеш ці слухаеш яго гумарэскі або глядзіш спектаклі па яго камедыях, то і насмяешся ўволю, і нарагочашся да слёз.

Нягледзячы на актыўную творчую працу, адказную работу (кіраўнік Гомельскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў) і грамадскую дзейнасць, В.Ткачоў вельмі часта на крылах смеху завітвае да аматараў дасціпнага мастацкага слова. Тым, каму не давялося пабываць на такіх сустрэчах, пашанцавала зрабіць гэта цяпер.

Новую кнігу празаіка склалі гумарыстычныя творы апошніх двух гадоў. Прачытайце, і цёплы, гаючы смех падорыць вам цудоўны настрой і аптымізм.

Міхась Пазнякоў.

# КРУТЫЯ ХЛОПЦЫ

Жменькін, як толькі кульне горкай, успамінае сваю палескую вёсачку Чамяроўку. Да таго расчуліцца іншы раз, што сляза вялікай гарошынай выпырхне з вока. І тады ён уяўляе, як падрульвае да матулінай хаты на самай шыкоўнай і прэстыжнай іншамарцы, піпікне, на ганак выходзіць матуля, выцірае похапкам аб фартук кашчавыя рукі – спяшаецца да яго, Жменькіна, каб расцалаваць.

– Ніяк ты, Колька? – уся засвеціцца ад шчасця матуля, нясмела спытае.

– А то хто ж! Хопіць, што бацька кабылам хвасты круціў! Я! Я, матуля! – І Жменькін пачне выносіць сваё цела з салона прэстыжнага легкавіка. – Купіў. Ну, як калымага?

– То добрая! – усплясне рукамі матуля. – То лепшая нават, чым у старшынёвых сыноў і дачок! Малайчына!

– Ведай нашых! – падміргне Жменькін.

Эх мары, мары! За што ён, Жменькін, купіць той легкавік? За інтэрнат ўжо паўгода на плаціць – абяцаюць, калі не ліквідуе ў бліжэйшы час запазычанасць, вытурыць на вуліцу. Штаны працёрліся – хоць бы на каленках, а то якраз на тым месцы, на якім сядзіш. Пантофлі есці просяць. Ды і сам даўно сытна не еў.

А падруліць да матчынай хаты, каб землякі таксама вочы працёрлі і ахнулі ад здзіўлення, ой як хацелася. Асабліва пасля чарговых келіхаў горкай.

– Чакай, матуля! – сказаў сам сабе Жменькін. – Еду! Зачакалася ты, родная!

Легкавушак каля універмага стаяла багата, адна за другую прыгажэйшыя. Паколькі разявак таксама не менш, неўзабаве Жменькін газаваў па шырокай вуліцы, спрытна абмінаючы грузавікі і розныя там «Запарожцы».

– Еду! – радасна ляпнуў па абаранцы рукамі Жменькін, і ад пачуцця, што нарэшце ён абрадуе сваю матулю, зноў на брыво ўселася сляза. – На «Фордзе»! Страчай, матуля!

Не паспеў Жменькін зацягнуць песню – настрой такі, што без яе аніяк! – калі недзе паблізу зарыпелі-завішчэлі тармазы, пачуўся піск гумы, трэск... і ён адчуў,

што прыехаў. «Форд» стаяў, як укапаны. Заглох. А перад ім, падставіўшы «вока», знерухомеў «Мерседэс», з якога нетаропка вылезлі тры хлопцы – крутыя, адразу змікіціў Жменькін і спалохаўся – і накіраваліся да яго. Адзін з іх моўчкі, перамінаючы на губах доўгую, як аловак, цыгарку, працягнуў Жменькіну ключы і абыякава, але цвёрда, непахісна сказаў:

– Трымай. Ага. Праз тры дні на гэтым месцы... Ты ўсё зразумеў, мікроб? Не адрамантуеш нашу тачку – твая справа. А цяпер вылазь. Вылазь, вылазь!

Жменькін пэўны час стаяў на ватных нагах, нават адчуў, што хістаецца, хоць ветру не было. Крутыя хлопцы селі ў «Форд», пакіравалі, не азіраючыся, сваёй дарогай. Жменькін жа сеў у «Мерседэс», той лёгка завёўся. Жменькін абрадаваўся: «Фару разбіў... Падумаеш! І бок трошкі памяў. Было б з чаго сыр-бор пачынаць. Дробязі. Едзе – і добра. Ага, так я вам і адрамантую. Чакайце!»

Ад’ехаўшы крыху ад месца аварыі, Жменькін убачыў, што крутых хлопцаў затрымалі даішнікі. «Апера-тыўна працуюць. Малайцы!» – пахваліў ён міліцыянераў, а сам звярнуў у завулак – адсюль бліжэй да Чамяроўкі.

Праспаўшыся, Жменькін ляжаў на мяккім матуліным ложку і думаў, што рабіць яму з гэтым «Мерседэсам».

## КІНО

Казюткіны глядзяць кіно. Па тэлевізары. Стужка пра наша з вамі жыццё, у ролях – вядомыя акцёры, таму да экрана прыліплі ўсе – ад старога да малога.

– А Кручкоў-та піў гарэлку! – калі на экране паказаўся славуты артыст, заўважыла, хмыкнуўшы, маці. – Усе вы, мужчыны, аднолькавыя. Вам бы толькі глытаць, толькі б булькаць!..

Муж агрызнуўся:

– А Шукшына колькі разоў замужам была? Падказаць?

– То ж Шукшына, а не я, дурніца, – уздыхнула, шкадуючы аб пражытым жыцці, жонка. Між іншым, а ты не скажаш, колькі разоў гойсаў у ЗАГС той жа Кручкоў?

– Ну, тры... – ціха мовіў муж. – Для артыста – нармальна.

– Дык яму можна, а Шукшыной – не? – вырачыла вочы на мужа кабета.

– Мама, тата! – папрасілі дзеці. – Цішэй вы, нічога ж не чуваць!

Маўчанне трымалася нядоўга. Неўзабаве старэйшая дачка Казюткіных заўважыла:

– Крамараў, дарэчы, у Амерыцы... Яму там вочы выпрамілі.

Маці хмыкнула:

– Вочы? Яму звіліны ў галаве трэба было выпраміць. Гэта ж трэба – уцёк адзін, а сям'ю ў Маскве кінуў. І як хапіла сумлення на такое? Ці каля яго ўвесь час сямейнікі павінны былі з косамі стаяць?

Муж заступіўся:

– Не можа быць, каб сям'ю кінуў, не узяў.

– Можа! Можа! Ад вас усяго чакаць даводзіцца! – жонка запунсавелася, торгалася ў крэсле. – Што, адвярнуўся, паразіт? За вамі вока ды вока трэба! Больш у камандзіроўку не паедзеш! І не мылься!

– Ды прычым тут я? Крамараў Саўка ўцёк... у свой час... а мне што – адказваць за яго, так? Вунь Мардзюкова... Глянь на яе. Падзівіся. Ціханава Шцірліцам назвала.

– Яна, дарэчы, яго першая жонка, – падказала сярэдняя дачка.

– Хіба? – здзівіўся бацька.

– Алёна праўду гаворыць! – энергічна заступілася за дачку маці. – Ды і хто з ёй ужывецца? Які дурань? Газеты чытаць трэба. Як толькі ў гасцініцу зойдзе ў якім-небудзь горадзе ваша Мардзюкова, там увесь абслугоўваючы персанал губляе прытомнасць: зноў Нона прыехала. Заганяе. Замардуе. То тое ёй не так, то гэтае...

... Кіно скончылася, ідуць навіны, а Казюткіны – ад малога да старога – усё яшчэ сядзяць перад экранам тэлевізара і ўспамінаюць, пра што ж яно было.

# ЯК ПАХОМ САМАГОН ХАВАЎ

Ажно трохлітровы слоік самагону зрабіў пахом. Зрабіў – і спалохаўся: а што, калі міліцыя зазірне? Тады, ясная справа, не мінаваць бяды, набярэшся непрыемнасцей: і штраф улупяць, і на работу паведамяць. А там рады будуць старацца – пачнуць прымаць меры на поўную шпулю: пазбавяць усяго, чаго толькі можна, і самагон той пракляты, калі падлічыш потым панесеныя страты, таго каштаваць і блізка не будзе.

Што ж, што ж рабіць? Ён ужо і сам баяўся глядзець на той слоік з самаробнай гарэлкай. «Трэба схаваць яго так, каб ніякая міліцыя потым не знайшла!» – вырашыў Пахом і пачаў дзейнічаць рашуча, энергічна. Сказана – зроблена: схаваў самагон. Выглянуў у калідор. Ціха. Нікога. Утапіў кнопку званка, хуценька забег у кватэру, строга спытаў:

– Хто там?

І адказаў сам сабе:

– Міліцыя! Паступіў сігнал, што ў вас ёсць самагон. Адчыніце!

– Шукайце! – дазволіў сам сабе Пахом і пачаў шукаць.

Знайшоў. На антрэсолях.

– Што гэта? – спытаў ён сам у сябе.

– Дыстыляваная вада, – адказаў.

– Дазвольце паспытаць?

– Дазваляю.

Пахом напоўніў шклянку ледзь не да беражкоў і залпам выпіў. Закусваў і думаў: «Кепска схаваў. Зусім. Знойдуць, і гаварыць няма чаго. Зараз, зараз я так заканапачу гэты самагон, што хай трэснуць міліцыянты, але дудкі знойдуць».

Пахом хаваў самагон яшчэ некалькі разоў, тапіў кнопку званка, пытаўся сам у сябе, хто гэта, дазваляў рабіць вобыск і пакаштаваць дыстыляванай вады. Хаваў у шафу, пад ложак, у канапу, у мех з бульбай... і ўсюды знаходзіў. Зусім разачараваўся старэча. А калі ўжо не было чаго хаваць, у дзверы і сапраўды пазванілі.

– Х...хто та-а-ам? – iкнуў Пахом і падняў асалавелыя вочы на дзверы.

– Міліцыя! Паступіў сігнал, што ў вас ёсць самагон. Адчыніце!

– Ды пайшлі вы!..–Пахом паспрабаваў узняцца, але не змог, і ён пагрозліва памахаў пальцам на дзверы.– Колькі можна, пытаюся? Колькі можна мяне, старога чалавека, турбаваць? Я ж вам сёння адчыняў ужо сем разоў! Сумленне мець трэба-а!..

## ЮБІЛЕЙ

Пятру Селівонавічу споўнілася пяцьдзесят. Круглая дата. Юбілей. З гэтае нагоды сябры-калегі сабраліся разам у актавай зале, каб павіншаваць свайго кіраўніка. Гучалі палкія прамовы, уручаліся каштоўныя падарункі і прыгожыя кветкі. Браў слова нават сам міністр. А потым, злёгку крэкнуўшы, папрасіўся павіншаваць юбіляра інжынер Ціханчык, мяккі , інтэлігентны з выгляду і сапраўды ціхі чалавек, які раней ніколі на такіх урачыстасцях не падаваў голасу. Ён пэўны час глядзеў у залу, колькі разоў папраўляў на носе акуляры, крактаў і соп, а тады, кінуўшы кароткі позірк на юбіляра, прамовіў:

– Тут шмат гаварылася самых розных слоў. Слоў добрых і шчырых. А як жа – юбілей... самі разумееце... ага. Трэба. Кіраўнік жа ён наш, Пятро Селівонавіч. Бацька. Таму даруйце, што і я буду хваліць юбіляра. А чым я горшы за іншых? Да ўсяго пачутага тут дадам, што і мужчына ён добры... на вышыні, як кажуць. Арол. Тут вось сядзіць яго палавіна, Генрыета Сяргееўна... яна пацвердзіць. Бачу, бачу: мае словы ў яблычка. Так-так. За ім, нашым шаноўным Пятром Селівонавічам, бегаюць усе нашы жанчыны, а з асобнымі ён заводзіць нават раманы... Службовыя, так сказаць... Як у кіно...

Па зале пракаціўся шумок, людзі павярнуліся да жонкі юбіляра: і трэба ж такое пачуць ёй, гаротніцы, ад нейкага там інжынера Ціханчыка! Выбраў момант, блазнюк. А той, не звяртаючы ні на што ўвагі, сыпаў далей:

– І калі б яму, здавалася, паспець усюды? Работы шмат. Рэканструкцыя. З планам запарка. Новыя тэхналогіі ўкараняем. Аднак – паспявае. Малайчына. Мая жонка, дарэчы, таксама прызналася, што дырэктар наш–

сапраўдны мужчына. А жонцы сваёй я веру, яна ніколі не хлусіць. Яна мяне, дарэчы, колькі разоў Пецькам назвала, хоць я ж – усе вы добра ведаеце – па пашпарту Ягор. Так што, шаноўны Пятро Селівонавіч, жадаю вам і надалей карыстацца такой жа павагай у жанчын...

І Ціханчык сеў.

Сядзеў і юбіляр.

У вялікай, як падалося ўсім, лужы.

## БЯСПЛАТНА НЕ ЕЗДЗІМ

– Кантралёры, кантралёры ідуць!– хвалькай пранеслася ў прыгарадным цягніку, і Цюлькін пацягнуўся да торбы, якую незадоўга да гэтага акуратненька паставіў на верхнюю палічку. Сцягнуў, развязаў матузкі.

– Няхай ідуць,– сказаў ён упэўнена і паляпаў па торбе.–Бясплатна не прывык ездзіць. На карку ў дзяржавы не сяджу.

А кантралёры людзі шустрыя –тут як тут.

–Ваш білецік,– вырасла перад Цюлькіным жанчына з бліскучым кампосцерам у руцэ.

– А, прабачце, колькі каштуе цяпер праезд да Церахоўкі? Як і раней?– натапырыў вушы Цюлькін.

– Шэсць тысяч!

– Зразумела! З мяне – сто пяцьдзесят!– Цюлькін хуценька дастаў шклянку і забулькаў у яе з пляшкі.

– Што вы робіце, грамадзянін!–занервавалася жанчына-кантралёр.–Паказвайце білет, альбо плаціце штраф. А ён, гляньце толькі, піць уздумаў у грамадскім транспарце. Хутчэй,хутчэй!

– Гатова!– і Цюлькін, усміхаючыся, падаў шклянку кантралёру.–Цюцелька ў цюцельку.

– Я... я не п’ю !– запунсавелася жанчына.

– А піць і нельга,– сур’ёзна адказаў Цюлькін.–Яна, гэтая гарэлка,– не ваша, ян – дзяржаўная. З гэтага часу – уласнасць чыгункі. Аднясіце яе ў сваю касу. Ці на склад. Замест тых грошай, якія я павінен быў заплаціць за праезд.

Жанчына нязграбна паціснула плячыма, нічога не разумеючы, бездапаможна паглядзела на пасажыраў,

чакаючы ад іх спачування: што мне рабіць, скажыце толькі, з гэтым дзіваком?

А Цюлькін працягваў трымаць шклянку ў выцягнутай руцэ:

– Бярыце, бярыце! Не бойцеся, гарэлка якасная. Самі ж робім. Ведаем, што нам будуць зарплату выдаваць пляшкамі з моцным напоем, то абы-што не вырабляем. А як жа! Так што не хвалюйцеся. Бачыце колькі ў мяне тут пляшак? Аванс, аванс атрымаў. Паўмесяца буду ездзіць у грамадскім транспарце і плаціць розныя штрафы...

Жанчына-кантралёр зрабіла выгляд, што Цюлькін больш не існуе з ягонай гарэлкай, і павярнулася да бабулькі, якая трымала нагатове перад ёй паўкачана капусты.

– Я, дзетачка, пенсіянарка, то з мяне палавінка... Пенсію затрымліваюць... Бярыце, бярыце... Капуста добранькая... Свая...

Жанчына з кампосцерам пачала раптам губляць прытомнасць, і яе не было каму падтрымаць – рукі ў пасажыраў аказаліся занятымі сасіскамі, сардэлькамі, курынымі яйкамі, падшыпнікамі, гайкамі...

Бясплатна нашы людзі ездзіць не прывыклі!

## СЕАНС КАХАННЯ

Рыжыкаў, як толькі выйшаў на пенсію па інваліднасці, то ў гарадской кватэры бывае рэдка – больш жыве на дачы. Рачкуе там. Развёў трусоў, курэй, нешта вырошчвае на градках. У горад прыязджае толькі атрымаць пенсію і даведацца, ці жывыя яго хатнія. Жывыя. Працуюць і вучацца.

І ў той дзень ён, стомлены і шчаслівы, прыехаў з поўнай торбай, паставіў за парогам:

– Ешце!

А сам пасядзеў крыху перад тэлевізарам на канапе і заснуў.

Пад ранне аглядзеў, што побач пасопвае жонка. Неўзабаве кабета заварушылася, пачала лапаць Рыжыкава рукамі, інтымна, пяшчотна. А вусны шапталі:

– Мілы... каханы... любы... Як я чакала цябе!..

Рыжыкаў апамятаўся толькі, калі жонка сцягнула з яго сарочку, штаны, майку і трусы. Ляжаў ён у чым маці нарадзіла. І раптам жонка ўскочыла з ложка і шмыганула з адзеннем мужа ў ванны пакой:

– Вось калі я цябе злавіла, нямыцік ты мой!

Рыжыкаў мацюкнуўся, плюнуў і нацягнуў на сябе коўдру.

## ЦЯЖКАЯ НОША

Сустракаю увосень – добра запомніў, бульбу капалі–нашу мясцовую паэтэсу Электру Вітольдаўну з клункам на плячы. У вайну з такімі клункамі звычайна бежанцы ішлі. Павіталіся. Бачу, цяжкавата ёй, а новыя вершы прачытаць хочацца, таму прапанаваў сесці на лаўку. Селі. Электра Вітольдаўна адразу пераходзіць да справы – вершы пасыпаліся, як гарох з торбы.

– На сёння хопіць,– гаворыць паэтка.– І так забавілася. Гэта ж во на базар бягу–трэба прадаць боцікі, паліто, шапку ды яшчэ тое-сёе. Паабяцалі кнігу за свой кошт выдаць, а грошай няма. Мо наскрабу? Момант, сам разумееш, нельга ўпускаць. Тым больш, што ў дзяржаўным выдавецтве мяне ніхто не чакае, там сваіх аглаедаў багата. Ды і хіба ж яны надрукуюць таго, хто лепш за іх саміх піша? Ніколі! Усё, усё, пабегла. Табе першаму аўтограф дам. Да сустрэчы!

На тым развіталіся. Перад Новым годам зноў сустракаю Электру Вітольдаўну на тым жа самым месцы і з тым жа клункам на плячы. Пытаюся:

– Куды шлях трымаеш, шаноўная?

– Усё туды ж...– шматзначна ківае Электра Вітольдаўна.–Трэба патроху кнігі прадаваць, а то зіма, а ў мяне ні ботаў, ні паліто, ні шапкі. Аўтограф я табе потым дам. Потым. Няма пакуль часу... Зіма... Холадна... Хлеб, кажуць, падаражэў?

На гэты раз Электра Вітольдаўна вершы мне не чытае – адразу ж шыбуе далей па вуліцы, сагнуўшыся пад сваімі томікамі, на базар.

Я паспачуваў: сапраўды, цяжкую ношу ўзваліла на свае плечы жанчына.

## ХАПІЛА Б ШНУРА

У кватэры пісьменніка Барханава познім вечарам затрэнькаў тэлефон.

– Калі Шапкін – мяне няма! – шалёна замахаў на апарат пісьменнік. – Зноў, як і раніцай, вершамі замучыць! Чуеш, кабета? Няма, няма!

Але ж Шапкін прадугледзеў, што пісьменнік Барханаў можа замахаць рукамі на тэлефон і папрасіць жонку, каб тая сказала, што гаспадара няма, таму падрабіў голас. Жонка Барханава, нічога не падазраючы, паклікала мужа, які ўжо зашыўся недзе на ўсялікі выпадак у куток:

– Ды не Шапкін. Падыходзь, падыходзь, не бойся.

Барханаў ажно прысеў, калі з ім загаварыў Шапкін.

– Сёння, пасля таго, як чытаў вам тыя пятнаццаць вершаў раніцай, напісаў яшчэ сем! – падкрэсліваючы, што ён не абы-хто, а самы што ні на ёсць перадавік у паэтычным цэху, любога, нават прафесіянала за пояс заткне, затрубіў Шапкін. – Слухаеце, Юр’евіч? «Касіў сёння я на лузе, поўз жучок на мокрым пузе...»

– Пачакайце, – сабраўшыся, нарэшце, крыху апрытомнеў Барханаў. – А вершы колькі старонак займаюць?

– Колькі? Зараз, зараз... Амаль дваццаць!

– Вы іх мне, калі ласка, усе адразу прачытайце, без антрактаў і каментарыяў, – папрасіў Барханаў. – Я іх тады лепш успрымаю...

– Згода! – кіўнуў недзе на другім баку провада задаволены Шапкін і пачаў чытаць...

Барханаў асцярожна паклаў трубку каля тэлефоннага апарата і моўчкі падсеў да тэлевізара – якраз пачыналіся «Навіны», яго любімая перадача. Як і кожнага, дарэчы, нармальнага чалавека.

Праз некалькі хвілін ён падышоў да тэлефона, паднёс да вуха трубку. Шапкін усё яшчэ чытаў, і рабіў гэта ён надзвычай эмацыянальна, узнёсла, быццам стаяў на сцэне перад шматлікай аўдыторыяй і тая натхняла яго.

У гэты вечар у Барханава нарадзілася ідэя: набыць у краме доўгі шнур. Тады не страшна будзе – няхай чытаюць яму па тэлефоне хоць і раманы, ад слухання якіх ён пакуль адбіваецца, але вось-вось, адчувае, дрогне, зломіцца. Іх, як і вершы, апавяданні, п’есы можна будзе слухаць тады на кухні, перад тэлевізарам, на балконе, у ложку і нават у туалеце. Усюды. Хапіла б шнура.

## ПЕРАБРАЎ!..

Усё часцей і часцей Пятрунчык думаў-гадаў, як падлабуніцца да начальніка аддзела Сідорчыка. Трэба. І неадкладна. Прычына на тое была самая што ні ёсць важная і надзённая – пачаў заўважаць падначалены, што той у апошні час быццам бы чамусьці глядзіць на яго ваўчанём, укусіць гатовы. Таму Пятрунчык скроб за вухам, разважаючы: «Што ж магло здарыцца? Якая муха яго цапнула? Няйначай яны, непажаданыя, замаячылі на гарызонце, то ўжо і пачаў патроху сартаваць людзей... мяне, значыць, адрынуў... на сметнік... Бач, бач, касавурыцца, быццам я яму калі дулю паказаў. З’есці гатовы. І сажрэ, чаго добрага!»

Але як падкаціцца да Сідорчыка, як падтачыць кантакты – Пятрунчык не ведаў. Абручы, здаецца, вось-вось на галаве палопаюцца, а прыдумаць што вартае – ну ніяк! Хоць плач. Існуе ж гэтая чортава субардынацыя, не скажаш, змахнуўшы капялюш: «А вось ён і я! Прывітанне, стары! Як нашае нічога?»

Не, што не кажыце, а для такога важнага візіту патрэбна і важная прычына. Пятрунчык торгаўся, мітусіўся, лыпаў вачыма: «Думай, думай, Пятрунчык! Іначай загрыміш ты, адчуваю, на біржу працы, усучаць табе мятлу».

І ён, здаецца, дадумаўся.

Якраз жа ўчора Пятрунчык выпадкова сутыкнуўся на гарадской вуліцы з шэфам – той не ішоў, а плыў: шэф быў пад добрым шафэ. Недзе, бачыце, добранька клюнуў, няйначай на дурніцу, і Пятрунчык

задаволена пацёр далонямі: што, калі гэта скарыстаць, га-а? Прыдумаў! А ён і помніць не будзе…

Назаўтра раніцай Пятрунчык асцярожна паляпаў у дзверы начальніка аддзела.

– Заходзьце! – пачуў ён добразычлівы голас Сідорчыка. – Заходзьце, заходзьце! Калі ласка!

Ад такой ветлівасці Пятрунчык ажно разгубіўся. Ён пацёрся яшчэ трохі ў парозе і патупаў да стала Сідорчыка, які свяціўся, бы лямпачка. Не скажаш, што ўчора піў горкую. Але ж было…

– Слухаю вас, таварыш Пятрунчык, – ступіў насустрач Сідорчык, моцна пацiснуў падначаленаму далонь, што таго зноў здзівіла і ўразіла. – З чым, так сказаць, да мяне? Што хвалюе? Што турбуе-непакоіць? Слухаю!

– Я… я… – зашамкаў ротам, бы рыбіна на беразе, Пятрунчык, – вам доўг прынёс. Доўг… гэта самае… так-так… капейка ў капейку… роўна пяцьдзесят тысяч…

І Пятрунчык паклаў на стол грошы адной паперкай.

– Доўг? Які? – насцярожана і здзіўлена паглядзеў на падначаленага Сідорчык. – Прабач, нешта не прыгадаю…

– Учора… ага… мне пазычылі… можа і не пом-ніце… усялякае можа быць… стаміліся, можа, на працы… Ага… Дзякуй вам, Павел Яўменавіч, – затрос рэдзенькай бародкай Пятрунчык. – Вы мяне і маю сям’ю, можа, ад смерці ўратавалі… На хлеб далі… Дзеці есці хацелі… ага… Есці хацелі… дзеці…

– А я не помню.

– Было, было! – апантана замахаў на Сідорчыка Пятрунчык. – Было! Каб не вы … дзеці б з голаду… ага.

– Дзіўна ўсё гэта, – развёў рукамі Сідорчык, сумна ўсміхнуўся. – У мяне ж быццам і грошай не было. Піць, таварыш Сідорчык, трэба паменей. Што скажаш, Пятрунчык? Харош я быў?

Пятрунчык вінавата, быццам гэта ён учора быў п’яны, апусціў галаву і кіўнуў.

– Вось і я так гавару, – пагадзіўся Сідорчык. – Д’ябал паблытаў. – Ён дужа ўжо неяк па-сяброўску мякка паклаў яму руку на плячо, выдыхнуў: – Пакідаю я вас,

Пятрунчык. Учора вось банкецік быў… новую пасаду, так сказаць, абмылі трошкі. Пераходжу ў іншае бюро, на іншае прадпрыемства. А калі… калі грошы зноў табе спатрэбяцца, то заходзь… пазычу. Тым больш, што аддаеш ты акуратна, вельмі хутка. Заходзь, Пятрунчык. Звяртайся.

Пятрунчык жа стаяў, нібы праглынуўшы мячык, баючыся паварушыцца. А вочы свідравалі касцюм Сідорчыка, тое месца, дзе ён схаваў апошнія ягоныя грошы.

«Эх, перабраў!..» – нарэшце выдыхнуў Пятрунчык і паглядзеў на дзверы.

## БАКСЁРСКІ ПРЫЁМ

Ёсць людзі, якіх хлебам не кармі, а дай пахваліцца. Ёсць чым, няма – ім усё роўна. Абы паказаць сябе, падкрэсліць: вось ён я! Бачыце? То бачце і запамінайце. Такі ж самы і Міхась Цвік, мой знаёмы. Асабліва захапляецца ён самарэкламай у грамадскім транспарце. Не дурань – ведае, дзе людзей шмат і ім няма больш чым заняцца, як натапырыць вушы ў ягоны бок. Міхась быццам сябруку апавядае пра свае прыгоды-здарэнні-дасягненні, але ж гаворыць гучна і артыстычна, каб усе не толькі чулі, але і глядзелі на яго, каму, вядома, гэта ўдасца.

Даканаў ён сваім прыёмам Пятра Шныпарука, з якім таму «пашанцавала» не толькі працаваць разам, але і жыць у адным доме. Таму на працу – разам, з яе – таксама. І над вухам, як нудны камар, кожнага разу гудзіць Міхась Цвік: «Ты слухай!..» І пачынае несці бязглуздзіцу. Не мяняючы рэпертуару, адрасуе старую байку быццам бы Шныпаруку, але з разлікам на ўсіх: «Ты слухай!.. А ўчора рыбу лавіў. На сваім «Мерседэсе» ездзіў. На вуду – верыш? – шчупака забацаў на тры кілаграмы, во такога… – Ён спрабуе паказаць рукамі, але заціснуты з усіх бакоў, не атрымліваецца. – Меншы, канешне, напалавіну за леташняга, але сям’ю накарміў, усе задаволены. Паказаў, дарэчы, шчупака Пашку, начальніку райаддзела міліцыі, з ім мы на адной парце сядзелі, і

цяпер ён увязаўся за мной на рыбалку. Вазьмі ды вазьмі. Вазьму-у. Хай павучыцца рыбу лавіць, басурман. Гэта яму не хуліганаў цапаць. Я вунь Цярэшку браў некалі на рыбалку. Ну, ты ж ведаеш, ён цяпер у Адміністрацыі Прэзідэнта... заве, дарэчы, у Мінск, кватэру адразу абяцае, пасаду добрую з асабістым шафёрам... А навошта мне? Я вунь асабняк... катэдж трохпавярховы заканчваю. Гэта ты не бачыў?»

Шныпарук ківае: не, не бачыў. Не падаючы голасу, каб не паказаць, што Міхась Цвік усё гэта баіць менавіта яму. Сорамна. Вушы, адчувае, гарэць. І дзівіцца: «А ён, Цвік, у такой сітуацыі, як карась у вадзе. Цвіце і пахне!» Які «Мерседэс»?! Які катэдж?! «Хопіць! Баста!» – загадаў сам сабе Шныпарук. І прымяніў супраць Цвіка баксёрскі прыём – накаут. Вяртаючыся, як звычайна, разам з працы, той толькі заікнецца, каб сказаць нешта са свайго замыленага рэпертуару, які цалкам высмактаны, вядома ж, з пальца, а Шныпарук Цвіку стрэчнае пытанне – торк:

– А гэта ты, Міхась, з трэцяй жонкай жывеш ці і яна цябе вытурыла?

Ды гучна так пытае, каб усе чулі. Цвік адразу чырванее, нервова-перапалохана водзіць галавой па баках, шэпча, паказваючы ўсім выглядам, каб не выдаваў:

– Ціха ты!..

А калі Цвік зноў увойдзе ў азарт, Шныпарук спытае, бы між іншым, колькі ён плаціць суседцы цётцы Веры за пакойчык.

– Ціха ты!..

Альбо пацікавіцца, колькі ён заплаціў апошні раз за ноч у выцвярэзніку.

Пасля таго баксёрскага прыёму Міхась Цвік больш не ездзіць з работы ў адным аўтобусе з Пятром Шныпаруком. Сам пазбягае. Усяляк.

Ён, кажуць, знайшоў для сябе новага спадарожніка...

## МАНЁЎР

Каля маці з раніцы муляўся старэйшы сын Косцік. Ён працуе на заводзе токарам, а заработную плату затрымліваюць.

– Мама, родненькая, грошы патрэбны,– вінавата ўсміхнуўшыся, папрасіў ён.–Хоць колькі... Па магчымасці... Ты ж ведаеш, я нават курыць кінуў... улічваючы эканамічную сітуацыю ў нашай сям'і.

– Што ж з вамі паробіш?– маці пацягнулася за кашальком, адлічыла сыну некалькі паперак, той узяў, падзякаваў.

А потым наступіла чарга прасіць грошы ў дачкі.

– І мне...– апусціла яна долу галаву і сарамліва працягнула руку.– Колькі можаш. На марожанае. І ў тэатр, магчыма, пойдзем усім класам.

Неўзабаве і на далоньку дачкі леглі дзяржзнакі.

Сашка, самы малодшы, ён яшчэ ў садзік ходзіць, таксама паскардзіўся картавым ротам, што і ў яго няма грошай, а сёння яны яму вельмі патрэбны.

– Давай, давай і яму,– заступіўся за карапуза бацька.– Чалавек расце! Грамадзянін! Куды ні кінь – усюды грошы. А як ты хацела? Калі Светка сама пойдзе ў тэатр, то да іх той сам прыедзе. З казкай.

– Ага,– пацвердзіў Сашка і шморгнуў носам.

Маці дала колькі паперак і Сашку.

– Ну, а цяпер мая чарга,– працягнуў руку і бацька.–Адлічвай. Ды хутчэй, хутчэй, а то на працу спазнюся.

Маці нічога не заставалася, як паціснуць плячыма і аддаць апошнія грошы яму.

– Вось цяпер поўны парадак!– бацька па-змоўніцку падміргнуў дзецям і ўсе яны дружна высыпалі з кватэры – хто куды.

Назаўтра дзеці разам з бацькам віншавалі маму з днём нараджэння. І прыпаднеслі ёй падарунак. За тыя грошы, што вымалілі ў яе.

Маці праслязілася: падарунак ёй вельмі спадабаўся.

# АБМЫЛІ

Цюлькін атрымаў спадчыну – падворак з усімі забудовамі ў сваёй роднай вёсцы.

– Нам засталася спадчына-а!– словамі вядомай песні выпляснуў ён радасць і растлумачыў сябрам.–Цётка Маруся, пухам ёй зямелька, бачыце, не забылася пра мяне. Памірала, а помніла... Помніла , што ёсць у яе пляменнік Колька Цюлькін. Ну, і хіба ж я пасля ўсяго гэтага, пасля такіх шчадрот, магу яе забыць, га?

І ён праслязіўся, хлюпнуў носам.

– Нічога, нічога,– тармаснуў Цюлькіна за плячо сусед і сабутэльнік Грыбкоў.–Хвалявацца не трэба , няма падстаў. А памянуць цётку Марусю – варта. І спадчыну абмыць заадно трэба...

– Ды я!..– Цюлькін згроб сарочку на грудзях, тая ажно трэснула недзе на спіне.– Ды я апошнюю капейчыну патрачу дзеля такога!.. Не забуду цётку Марусю! Ніколі! А цяпер – за мной! У гастраном! Нам засталася спадчына-а-а!

Пасля першай чаркі Цюлькін успомніў родную вёску, у якой не быў даўнавата і шчыра прызнаўся, што нават крышачку і забыўся, якая яна з твару была, ягоная цётка Маруся. Быццам бы паўнаватая? І сівая, здаецца? Ці не?

– А якая розніца? – супакоіў Цюлькіна Грыбкоў. – Галоўнае, што яна была добрым чалавекам. Давайце і вып’ем за цётку.

Выпілі і на гэты раз, і назаўтра, і паслязаўтра. Цюлькін расшчодрыўся –нават зняў апошнія грошы з ашчаднай кніжкі. «Дзеля такой падзеі не шкада. Прадам хату – і ўсё вернецца з гакам!» А калі Цюлькін выбраўся нарэшце ў вёску, каб глянуць, што ж там засталося яму ў спадчыну, то аслупянеў: ні хаты, ні пуні, ні лазні на месцы не аказалася. Агарод ды сад. І рыдлёўка пасярод пляца тырчыць. Цюлькін узняў лямант. Аднак у канторы калгаса яго супакоілі–паказалі завяшчанне цёткі Марусі, дзе чорным па беламу было напісана: «Калі пляменнік Колька Цюлькін не з’явіцца пасля маёй смерці праз месяц, каб аформіць спадчыну, ахвярую свой падворак калгасу. На дровы».

... Цюлькін бачыў, як з трубы калгаснай кацельнай валіў густы дым. І яму нічога не заставалася, як пацягнуцца на аўтобусны прыпынак.

## УСЁ Ж АБДУРЫЎ...

Да суседа Піліпа наведаўся зяць з ваеннага гарадка – авіяцыі там служыць, то без спірта не прыязджае. Андрэю ж вельмі хацелася апахмяліцца. І ён заходзіць да суседа.

– Я вам там у гародчык пару мяхоў камбікорму перакінуў,– схлусіў, не міргнуўшы і вокам, Андрэй.

Сусед паверыў – Андрэй якраз і мае справу з камбікормам: на ферме даглядчыкам працуе. Піліп пачаставаў яго, пасля шукаў-шукаў той камбікорм– з ног збіўся. Ну дзе ты яго знойдзеш, калі ім і не пахла? «Абдурыў, нягоднік!»– злаваўся Піліп.

Андрэй жа вечарам апраўдваўся:

– А я прычым? Трэба было адразу забіраць. Можа хто ногі прырабіў?

А спірт жа перад вачыма стаіць. Назаўтра зноў заходзіць Андрэй да Піліпа, ківае на гародчык:

– Там два мяхі ляжаць, забірай.

– Зноў абурыць рашыў?– насцярожыўся Піліп. – Не атрымаецца. Паказвай камбікорм.

– От, людзі,– быццам бы пакрыўдзіўся за недавер Андрэй.–Не вераць. Пайшлі, пайшлі, пакажу.

Піліп і сапраўды ўбачыў у гародчыку два мяхі, нават памацаў іх пальцамі.

– На гэты раз бачу, што камбікорм.

Зноў пачаставаў Андрэя.

Але ж Андрэй усё роўна абдурыў суседа – у мяхах была звычайная драўляная тырса з калгаснай піларамы.

## ПІШЫЦЕ: АДЗІН НЕДАХОП...

Васіль Мікітаў любіць расказваць розныя салдацкія прыгоды, што некалі, калі верыць, надараліся менавіта з ім. У крайнім выпадку – ён недзе быў паблізу...

– А пра лапатку я не расказваў? Не? Г-гы. Прыязджае праверка. Пастроілі нас пры ўсёй амуніцыі. Пад шнурок. Я на правым флянзе. Першы. З мяне і пачынаюць. А я ж, ведаеце, у сапёрах служыў. Падыходзіць падпалкоўнік, бярэ маю сапёрную лапатку, круціць-верціць...прыдрацца, хіба ж не відна, рашыў. І на таго капітана глядзіць, які блакнот падрыхтаваў нешта запісваць. « Так,– кажа капітану падпалкоўнік,– у радавога Мікітава лапатка брудная, тупая, чаранок трэснуў...». Налічыў такім чынам пятнаццаць недахопаў. Тады я бяру сваю лапатку ў падпалкоўніка – дайце сюды! – і шубаю за паркан. Пішыце, гавару, адзін недахоп: няма лапаткі ! .. Г-гы...

## ПАШКАДАВАЛА

Бабка Маруся выйшла на ганак. Быў позні вечар. З неба ліло, як з вядра. Да таго ж халодны вецер. Старая падзівілася, што робіцца наўсцяж, і сама сабе ўголас сказала:

– І як у такое надвор’е злодзеі крадуць, бедненькія? Халаднеча ж. Золь. Цемра. Ай-яй-яй, гаротнічкі, і пашкадаваць вас няма каму.

І тут з цемры да старой рушыла даволі ладная постаць у вайсковай плашч-накідцы.

– Не бойся мяне, бабуля,– сказала постаць басам.– Мы ўжо вывелі тваю карову з хлява, але забіраць не будзем. Ты пашкадавала нас, а мы цябе. Дзякуй, цётка, што хоць адна ты такая знайшлася. Забірай, забірай карову. Няхай пад дажджом не мокне...

Цётка Маруся, як стаяла, так і грымнулася вобзем.

## ПРАЧУХАНЕЦ

У гарпасялковай сталоўцы выступаў надоечы пісьменнік Пісулькін з вобласці – апавядаў пра сябе, дзяліўся творчымі планамі, цікава расказваў пра сваіх герояў. Жанкі, а гэта ж яны сядзелі ў час абедзеннага перапынку за столікамі ў зале ў бялюткіх халаціках, жыва

рэагавалі амаль што на кожнае слова літаратара, а калі той пачаў расказваць пра Пятра, шалапута і п’яніцу, смяяліся да слёз. Пісьменнік адно толькі дзівіўся: «Быццам і смешнага нічога не баю, а яны, кабеты, бач ты, ажно заходзяцца. А можа ў мяне што на адзежцы не так?» І ён крадком скіраваў позірк уніз, упэўніўся: не, там усё так.

– Дык вось, – працягваў гаворку госць, – аднойчы прыходзіць герой майго апавядання «Закончаны Пятрок» дахаты, а жонка яго і блізка на парог не пускае. Дзе, кажа, нажлукціўся, там і жыві, абармот! Кыш! На твае рэчы, забірай, п’янтос ты гэтакі! Каб вочы мае цябе больш не бачылі! І на ганак паляцеў загадзя падрыхтаваны чамаданчык. І дзверы на кручок.

Жанчыны ажно кіснуць ад смеху. А дзяцюк, які сядзіць якраз пасярод іх у навюткім халаціку, – упершыню, відаць, з нагоды сустрэчы з пісьменнікам на яго нацягнулі накрахмаленую апранашку, – ёрзае, чырванее і бялее, месца сабе не знаходзіць.

Пісьменнік жа працягвае:

– Куды ж падацца майму герою апавядання «Закончаны Пятрок»? Вакзала ў пасёлку няма. Ёсць толькі аўтакаса. На вуліцы золка, справа пад восень. Сваякі і знаёмыя таксама Петраку не адчыняюць – абрыд ім яго п’яны твар. Дык што ж тады робіць наш герой? Нядоўга думаючы, ён накінуў на рогі карове вяроўчыну і выводзіць з хлеўчука...

Смех такі ў зале, што пісьменніка не чуваць. Калі трохі жанчынкі ўгаманіліся, прамакнулі хто насоўкай, хто ражком халаціка слёзы на вейках і шчоках, пісьменнік Пісулькін у заключэнне сказаў:

– Бачу, мой герой вам дужа спадабаўся. Дзякуй. Скажу больш...

Але адна дробненькая жанчынка перапыніла яго:

– Дык, цікава, куды ж карову ён завёў, Пятрок ваш?

– А нікуды. Папужаў жонку. Убачыла яна ў акенца, што пацёгся ён з рагуляй, кумельгам кінулася ўслед, учапілася за хвост: не пушчу-у! А Пятрок сваё трындзіць: «Гэць адсюль! Табе дом застаецца, парсюк, куры, агарод... А нам з Марусяй і карова добра будзе». Бачыць жонка: справа прымае сур’ёзны абарот, Маруся з

каровай каго хочаш возьме, любога п’янтоса, бо сама такая – міма роту не пранясе. Прап’юць, канечне ж, карову разам, а тады яна выспятка Петраку: кацíся, ты мне больш не трэба такі... без каровы. Падумала жонка, павагалася, ды і саступіла – пусціла ў хату. Дамоў нават сама несла чамадан з трантамі мужа і з высока ўзнятай галавой вяла за ражок вяроўчыны карову.

Ніколі яшчэ ў сваім жыцці не меў Пісулькін такога поспеху на сустрэчах з чытачамі. Апладысменты, словы ўдзячнасці, поціск рук. Толькі адзін дзяцюк не дасядзеў да канца – даў цягу.

... Вечарам Пісулькін завітаў у тую ж сталоўку – падсілкавацца. Жанчына, што стаяла на раздачы, прыветна ўсміхнулася – як старому знаёмаму – і ціха, быццам саромеючыся, спыталася:

– Прабачце... Вы заўсёды так робіце?

Пісулькін крышачку здзівіўся, павёў плечуком: не разумею.

– Спярша разведаеце ўсё, а потым пішаце і нам пра нас чытаеце?

– Не разумею, – цяпер ужо ўслых дзівіўся Пісулькін. – А што, прабачце, здарылася?

– Як што? Вы ж пра нашага Петрака напісалі. Пра грузчыка. Цюцелька ў цюцельку. Чамадан таксама жонка выкідвала за парог. І карову вёў за вяроўку да другой жанчыны. Яе, дарэчы, таксама Марусяй зваць. І п’яніца яна...

– Вось як! – шчыра ўсміхнуўся пісьменнік. – Бывае, бывае... Супадзенне... Павінны зразумець... Так, так...

Сама ж жанчына і выручыла зусім разгубіўшагася пісьменніка:

– Хоць вы ж сёння да нас прыехалі... Калі б маглі паспець? Супадзенне, відаць, і сапраўды. Гэтыя Петракі ўсюды ёсць. Але за тое, што яму добры прачуханец адпісалі, я вам крышачку больш мясца пакладу. Ешце на здароўе. А за прачуханец яшчэ раз дзякуй. Мо паразумнее, паразіт? Я ж, таварыш пісьменнік, жонка Петрака, каб яму безікі павылазілі, булькачу акаяннаму!

## ЗНАЙШЛІ ВЫЙСЦЕ

Сінічкін у апошні час дужа налёг на чарку. Жонка не магла ніяк даць яму рады. Прачуханцы і іншыя метады перавыхавання не дапамагалі. Што ж рабіць? Як быць? Гіне чалавек! Жанчына паскардзілася бацькам. Тыя параілі: трэба купіць аўтамашыну. Глядзіш, і паразумнее Сінічкін. За руль жа не сядзеш пасля чаркі. Сінічкіна ўхапілася за ідэю, пададзеную бацькамі, тым больш, што тыя паабяцалі дапамагчы грашыма. Грошай наскрэблі ўсяго на «Запарожац». Хоць так. На курсы Сінічкіны рашылі пайсці разам. Гэта ж добра, разважалі, калі ў сям'і два шафёры. Ці мала што? Тым больш, што будавалі планы ў перспектыве набыць іншамарку і падарожнічаць па краіне і нават замежжы.

Атрымалі вадзіцельскія пасведчанні. Набылі «Запарожац». Назаўтра Сінічкін, як і планавалася, накіраваўся на працу ў салоне «Запарожца». Жонка, праводзячы яго, памахала рукой і праслязілася:

– Нарэшце ты стаў чалавекам, Сінічкін!

З работы Сінічкін затрымліваўся. Здавалася б, раней, чым заўсёды, павінен быць дома, а яго, небаракі, няма. Кабета пачала хвалявацца. І калі затрэнькаў тэлефон, яна апантана ўхапілася за трубку:

– Алё! Слухаю! Хто гэта?

Званіў муж. Ён бадзёра прасіў жонку, каб тая тэрмінова прыехала да яго. І растлумачыў – чаму:

– Тут, разумееш, выпілі патрошкі. Ну, у Сідорчыка дзень нараджэння ў цёшчы. А за руль жа, галуба, у нецвярозым стане я сесці не магу. Прыедзь, забяры мяне разам з «Запарожцам».

Сінічкінай нічога не заставалася, як паспяшацца на выручку.

## АРТЫСТ

Мірончык працуе акцёрам. Ролі, праўда, яму адводзяць не галоўныя, але заняты ў спектаклях даволі часта. На афішах у пераліку прозвішчаў пасля « у спектаклі таксама заняты» – фігурыруе і ён. Больш за ўсіх

ганарыцца Лізавета, што яе зяць не пастух-абібок які-небудзь там зачуханы, а артыст! Тэлевізар з гэтае нагоды не выключаецца – усё меціць Лізавета зяцька на экране ўбачыць у спектаклі альбо кінафільме, але нешта не відаць. І яшчэ ў старой склалася ўражанне, што калі яе зяць артыст, то, значыць, усё можа рабіць. Нават хляўчук згарбузаваць. У кіно ж артысты тыя чым толькі не займаюцца. Таму, калі на чарговыя выхадныя зяць наведаўся да цёшчы ( за бульбай і салам), атрымаў нарад:

– Зрабі, зяцёк, хлеў. Карову даюць у калгасе, а ставіць няма куды.

– Як двойчы два! – упэўнена сказаў Міронччык.–Тут справы тае! У нас, у тэатры, гэтыя хлявы вылятаюць з майстэрні, бы аладкі з печы. Не кажучы ўжо пра Палацы розныя. Матэрыял... будаўнічы, маецца на ўвазе, мне. Плюс цвікі, малаток, сякеру, нажоўку. І можаце прыводзіць сваю карову, матуля, хоць заўтра!

Міронччык забіў на агародзе чатыры калы, абцягнуў іх рубероідам, на рубероідзе належнай фарбай намаляваў бярвенні, на дах накідаў markedрознага ламачча, а пад дзверы прысобіў старую шафу.

– Прымай, матуля, работу!– шырока ўсміхаўся зяць.

– Во дзякуй табе. А я і знала, што калі арціст, то ён на ўсе рукі масцір. Суседзі вунь дзівяцца: дзе ты, Лізавета, лесу на хлеў набрала столькі багата, быццам бы і не ляжаў каля двара? Так я ім і скажу – дзе. Хай самі здагадаюцца.

З нагоды пабудовы хлява Лізавета добра пачаставала зяця чаркай, а пакуль ён еў-піў, прывяла карову з калгаснай фермы, зачыніла: няхай прывыкае да новага месца. Яна б, можа, і прывыкла, але якраз побач з хлеўчуком па вясковай вуліцы гналі з пашы статак, карова пачула знаёмае мыканне і кінулася да сваіх, несучы на рагах і спіне ўвесь той хлеў...

Добра, што зяць яшчэ не паспеў у горад паехаць – няхай пабачыць, які ён хлеў зрабіў.

– Цьфу!– плюнула Лізавета.

– А вось для курэй самы раз было б, – памяркоўна сказаў Міронччык і паскроб за вухам цвіком: гэта ўсё, што засталося ад хлева.– Матэрыял, панімаеце, слабаваты...

Для бутафорскага хлява – так, падыходзіць, а вось на большае... прабачце. Прабачце – не цягне. Гэта і рагуля даказала. Купляйце курэй.

– А калі куры ўзляцяць, зяцёк, раптам з тваім хлевам, што тады?– сумна ўсміхнулася Лізавета і ўзяла пад руку зяця, павяла з агарода...

**НЕ ПАЖАРНІК!**

На курорт Прымак ездзіў яшчэ пры Хрушчове, « у дзеўках», як любіць ён казаць. Збіраюцца, бывае, вясковыя мужыкі на прызбе дзе, просяць Прымака:

– Раскажы, Васіль, як ты на курорт ездзіў.

– А што расказваць?– Прымак крыху ўпарціцца, а потым зрывае з галавы кепку, кладзе яе на калена, прылізвае далоняй растапыраныя валасы. – Што было, тое было. Ездзіў. Ага. Добра там. Дрэвы такія прыгожыя растуць... во забыўся, як называюцца... але іголкі доўгія і не коляцца, халера.

– Ты нам не пра іголкі,– хто-небудзь з мужыкоў перапыняе Прымака.–Ты нам лепш пра баб... Не адну, пэўна, ашчаперыў?

Прымак усміхаецца:

– Было... Хлусіць не стану. Іх там, мужыкі, любога каліберу. Адна за мной увязалася– праходу не давала. А я за дрэва схаваўся, рукамі махаю: кыш, кыш, не падыходзь, а то крычаць буду! Дзе тут участковы? Мо заразу якую хоча перадаць з таго курорту? І не даўся. А яна: « У мяне пуцёўка гарыць!» А я што табе-–пажарнік?

Мужыкі дружна смяюцца. Мо дзесяты раз слухаюць яны Прымака, і кожны раз слёзы на вачах...

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015

© PDF: Камунікат.org, 2015

**ЗМЕСТ**



Месца выхаду: Мінск
Дата выхаду: 2001
Рэдактар Міхась Пазнякоў
Бібліятэка часопіса “Вожык”
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
Памеры: 30 с.